БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА ЗАСНАВАНАЯ У 1906 Г У ВІЛЬНІ АДНОУЛЕНАЯ ТАМСАМА У 1991 Г 3 1 САКАВІКА 996 Г ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША Н ВА

СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

# БУДЗЕМ...

***Мудрымі будзем, як зьмеі,***
***хітрымі, нібы лісы,***
***чыстымі, як лілеі,***
***і першымі ў чорных сьпісах.***

***Добрымі будзем, як маткі,***
***як сьветлыя сны і мроі,***
***жанчыны — нібы аплаткі,***
***мужчыны — як сталь для зброі.***

***Цеплымі будзем, як дрэва,***
***і шчодрымі, як на Каляды,***
***будзем ня справа, ня зьлева,***
***а там, дзе нам будуць рады.***

***Будзем, як травы ў росах,***
***як белыя гіяцынты,***
***як чэрвеньскія пакосы,***
***як залежы антрацыту.***

***Ціхімі будзем, як гольлі***
***дрэваў хвойнай пароды,***
***як павуцінка са столі,***
***як першыя лёгкія роды.***

***Будзем, браты і сестры,***
***супольна крочыць у наступ,***
***будзем, як меч гостры,***
***як цяжкі рабочы заступ...***

*12 сьнежня 1997 году*



З Новым Годам

# НАША НІВА

36 (97) 29 СЬНЕЖНЯ 1997

## Беларусь маімі вачыма

Таварыства Беларускай Мовы абвесьціла конкурс Старонка 7

## Слава Акцябру

Сьвяточнае апавяданьне на старонках 14-15

## Led Zepelin і Максім Багдановіч

Эсэ на старонцы 11

## Бэстсэлеры Беларусі

Вынікі 1997 году на старонцы 12

## Жалезны Фэлікс

Пра памяткі Дзяржынскага у Беларусі — на старонцы 11

## Іван Антановіч — аб сусьветнай цывілізацыі

Рэцэнзія на старонцы 10

## Наркотыкі ў дулах савецкіх танкаў

Гутарка пра сытуацыю у Таджыкістане на старонцы 6

# БЕЛАЯ РАЗЬВЕДКА

*Апошні нумар «НН» у 1997-м годзе па ліку 97-мы. Першы ў 1998-м будзе 98-мы. Натуральна, гэта яшчэ ні пра што ня сьведчыць але адчуваньне зьліцьця з часам ёсьць*

*Мінулы год пасьля крывавага 96-га выглядаў на шпіталь у прыфрантавой паласе, дзе мы залечвалі свае раны і ня больш. Мы яшчэ ня марылі пра тое, што будзем рабіць ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ Мы толькі ўпурліва прыводзілі ў парадак сябе Мы толькі ўслухоўваліся у блізкія выбухі. Нас не пакідала татальнае гіпнатычнае прадчуваньне канца. Але вось праграма году вычарпаная. Мы зрабілі ўсе запланаваныя нумары газэты, мы выдалі некалькі кніг, правялі некалькі культурных акцыяў, больш-менш выбраліся з даўгавое ямы і досыць прагматычна ставімся да начнога стуку у дзьверы і да роскатаў недалёкае кананады.*

*На наступны год рэжым абяцае нам усё, што ён можа абяцаць — рэпрэсіі, шмат рэпрэсіяў. Супраць незалежнасьці нашага прадпрыемства, супраць адноўленага намі несавецкага правапісу, супраць нашых дарагіх чытачоў. Але мы ўжо, на жаль, да гэтага ўсяго прызвычаіліся і пачуваемся абстралянымі ваякамі. А напраўленае за мінулы год здароўе схіляе да мараў пра будучыню. Альбо, больш дакладна — пра інакшаўшчыну. Пра тое, што мы можам зрабіць па-за нашай, занятай імі, краінай і па-за створаным імі цэнзурным карцэрам — у вольнай інфармацыйнай прасторы.*

*У 1997 годзе Славамір Адамовіч ВЫЙШАЎ З ТУРМЫ. «Наша Ніва» пачала рэгулярна і даступна зьяўляцца у Інтэрнэце. Нашыя кантакты і магчымасьці ўжо дазваляюць нам існаваць незалежна ад Лукашэнкі. Шкада толькі часу і сілаў, патрачаных на стварэньне гэтае інакшаўшчыны. Замест сапраўднае культурнае індустрыі, пра якую мы марылі, мы ствараем штосьці накшталт агентурнае сеткі. Але гэта БЕЛАЯ РАЗЬВЕДКА. І нашае галоўнае адрозьненьне ад улады у тым, што у нас ніколі і ні ад каго не было й няма сакрэтаў. Калі ўлады ўжываюць рэпрэсіі да такіх, гэта значыць, што ў краіне пануюць вычварныя законы Але няхай гэта будзе іхная праблема — як даць сабе рады Мы ж множым пляны і адкрытыя да кантакту з нашымі чытачамі.*

*Мы гатовыя да салідарнасьці і любых прапановаў, якія спрыяюць пашырэньню і прафэсіяналізацыі беларушчыны. Апошняя задача чырвонай ніткаю праходзіць праз усе 97 нумароў «НН» і будзе для нас найпершаю задачай заўсёды. Замест мы спазналі халтуры, усялякага псэўдаінтэлектуалізму і дэструктыўшчыны, каб спакушацца гэтым надалей*

*Думаецца, што менавіта 1998 год стане ці пачне ставаць для Беларусі годам непазьбежнага грамадзкага падзелу на тых, хто за Беларусь і тых для каго ёсьць больш важныя арыенціры. Мы ня будзем спрыяць гэтаму падзелу, але будзем сачыць за ім. Гісторыя суседніх з намі краінаў паказвае, што не перайшоўшы гэты Рубікон, які падзяляе дабро і зло, нацыя ня можа вырвацца зь ліпучых абдымкаў саўдэпаўскае мінуўшчыны. Так было ў Балтыі, так было ў Польшчы і нават у Расеі. Не абміне гэтая чара і нашую старану. У такія часы нам усім трэба шчыльней быць разам*

*Заставайцеся з намі, тады «НН», незалежна ні ад чаго, будзе прыходзіць у Ваш дом*

*З пашанай*
*Рэдактар*

# ІНФАРМАТАР



## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Запрашаем ліцьвінаў манархічнага кірунку 246012, Гомель, а/с 124

Віншаваньні чароўнай пані, добразычліваму чалавеку, прафэсіяналу Галіне Пільчук з нагоды дня нараджэньня дасылаюць Лаўрэшы

Гісторыка-культурны клюб «Княжыч»: Бацькаўшчына, Крывітэсьлівасьць, Воля. Чакаем годных. Тэл.: (8-02144) 4-61-98, 5-21-23

Спадарыню Клаўдзію з днём народзінаў віншуе Аршанская суполка. Здароўя і цікавых сустрэч

Галіну Аляксееўну з Воршы віншуе Аршанска-Бараньская суполка з днём народзінаў. Як у Бартосіка: «Хай зьдзейсьняцца ўсе мары і мэты»

Усіх шчырых беларусаў віншуем з надыходзячымі сьвятамі. Хай здохне той, хто нас ня любіць. Аршанска-Бараньская суполка

Беларуская, расейская мовы: пераклады, урокі. Тэл.: 221-23-68

Віншуем Ляшэвіч Ірыну і Сержука з нараджэньнем дачушкі Яначкі. Зычым здароўя і шчасьця. Казьленка

Віншую Пятровіч Наташу з Калядамі і Новым годам. Няхай зьдзейсьняцца самыя сьмелыя мары. Казьленка Марына

Шаноўнага Паўла Армоніка віншую з Калядамі. Н.Гурына

Хто мову і веру мяняў, той ня толькі сябе — і суседа прадаваў. Беларускі народ

Запрашаем прыхільнікаў Манархіі. 246012 Гомель, а/с 124. Алесь Чорны

Віншую ўсіх сяброў МФ «Калюмны» з Новым годам ды Калядамі. Перамогі нам! Ільля

Cłopča miły, maju tryvožyš dušu ty jašče Dziaŭčo, jakoje šukaje paparać-kvietku

Matula Hanula, vinšuju z Kaladam Raščaravańnie, sum, adčaj haj zastanucca u 1997 hodzie. Tvaja vadalivačka

Aleś, vinšuju z narodzinami. Zastavajsia synam Volnaj Bielarusi

Сябры гуртку беларусазнаўства віншуюць усіх, хто любіць родную мову, з Новым годам і чакаюць ліставаньняў ад іх. 231300, Ліда, Багратыёна, 6. Кіраўнік гуртка Лявон Анацка

**КУПОН**
**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220123, Менск, а/с 71



## Беларускі патрыятычны сьпеўнік

### ПАЎСТАНЬ НАРОД

Вакальны маналёг для баса-барытона (ці мецца-сапрана). Словы ўзятыя зь вядомага вершу Я. Купалы «Свайму народу». У акампанымэнце выкарастаныя звароткі песьні «Ой, арол, ты, арол».

*сл. Я.Купалы*
*муз. народная*

Паўстань, народ. Прачніся, Беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань, народ! Для будучыні шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед
Ня дай ты ў гэты грозны час прапасьці —
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет

Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты
Цябе чакае Маці-Беларусь!



## КОНКУРС

# БЕЛАРУСЬ МАІМІ ВАЧЫМА

### СЯБРЫ!

Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны сумесна з Фондам садзеяньня асьветніцкай дзейнасьці праводзіць конкурс на лепшы верш альбо сачыненьне.

Сачыненьне (верш) павінны быць прысьвечаныя нашай Бацькаўшчыне, яе мінуўшчыне, сучаснасьці, будучыні, яе славутым сынам, а таксама маляўнічым і адметным мясьцінам Беларусі альбо нават проста людзям, якія сваім паўсядзённым жыцьцём нябачна служаць беларускай нацыі.

Ваш удзел у конкурсе — гэта яшчэ адна кропля да вялікай плыні адраджэньня нашай Бацькаўшчыны.

Пераможцы конкурсу атрымаюць прызы — касэты з запісамі беларускіх гуртоў, кніжкі за подпісамі аўтараў. Прадугледжаны Галоўны Прыз, але што гэта такое, Вы даведаецеся напрыканцы конкурсу.

Усе ўдзельнікі запрашаюцца на сьвяточную імпрэзу, дзе пераможцы атрымаюць прызы з рук нашых славутых пісьменьнікаў, пасьля чаго адбудзецца канцэрт беларускіх бардаў і беларуская дыскатэка.

Лепшыя творы будуць надрукаваныя!

Але ж галоўнае — наш конкурс дае магчымасьць знайсьці новых сяброў, пазнаёміцца зь людзьмі, што любяць Беларусь, неабыякавыя да яе лёсу.

Вы вырашылі ўзяць удзел у нашым конкурсе? Цудоўна!

Для гэтага Вы павінны абраць любую з наступных тэмаў:

1. Цікавая падзея ў гісторыі Беларусі.
2. Ён ствараў гісторыю. Велічныя постаці Беларусі.
3. Якой я бачу сваю будучыню і будучыню Беларусі.
4. Лёс мовы, які ён?
5. Вольная тэма

Вы можаце закрануць якую заўгодна тэму беларускасьці, трэба толькі, каб яна сапраўды хвалявала цябе, выклікала іншых на шчырую размову.

Свае творы пакідайце Вашаму мясцоваму арганізатару альбо дасылайце на адрас: 220005 Менск, а/с 64. Даведкі праз тэл.: 223-25-11 (тэлефануйце ў аўторак і чацьвер з 11.00 да 14.00). Абавязкова паведамляйце свой адрас і тэлефон для сувязі.

Творы прымаюцца да 25 лютага. Аб'ём адвольны.

Жадаем посьпехаў!



